*Падпісацца на «Народную Волю» можна ў любы дзень у любым паштовым аддзяленні ці ў спецыялізаваных пунктах "Белсаюздруку".*

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**№ 8 (4363)**

29 студзеня 2019 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ПЕЧАЛЬНАЯ ИСТОРИЯ

## Беларусь почтила память жертв Холокоста

27 января, в Международный день памяти жертв Холокоста, в Минске в Религиозном объединении общин прогрессивного иудаизма зажгли шесть свечей. Они символизируют то, что шесть миллионов евреев погибло в Европе за время Холокоста.

Церемония в память о той трагедии состоялась также у мемориала на улице Сухой, она была посвящена депортированным в Минское гетто и Малый Тростенец евреям из европейских стран.

В обращении министра иностранных дел Беларуси Владимира Макея по случаю Международного дня памяти жертв Холокоста, которое было зачитано во время мероприятий, прозвучала такая мысль:

«Объединенные общей трагической судьбой белорусы и евреи вместе противостояли фашистской агрессии. Многие жители Беларуси проявили настоящее мужество и самоотверженность и с большим риском для жизни спасали евреев от неминуемой гибели. Более 700 граждан Беларуси удостоены звания праведников народов мира».

*(Продолжение темы на 5-й стр.)*


Фото БЕЛТА.

ЧУЛІ?

### Золата падаражэла

З 16 студзеня Міністэрства фінансаў Беларусі змяніла цэны на скупку каштоўных металаў у насельніцтва. Цана за грам золата павысілася з 38,28 да 43,45 рубля за метал 583-й і 585-й проб, 1 г плаціны 950-й пробы – з 42,13 да 43,91 рубля. Кошт грама серабра 916-й і 925-й проб складае 0,81 рубля – раней было 0,76 і 0,77 адпаведна.

ПЕРСПЕКТЫВЫ

### Замест смецця – энергія

*У Мінску пабудуюць першы ў Беларусі завод па спальванні смецця.*

Штогод ён зможа перапрацоўваць каля 500 тысяч тон адходаў і выпрацоўваць цеплавую і электрычную энергію.

Эксплуатацыю дзеючага палігона ў Мінску плануецца спыніць праз 4 гады.

С ПОЛИЧНЫМ!

### Задержан с крупной партией насвая

Утром 25 января оперативники наркоконтроля Центрального РОВД г.Гомеля совместно с коллегами из Департамента охраны задержали неработающего жителя агрогородка Урицкое. 33-летний мужчина распределил расфасованный насвай по двум пакетам и нес их в руках, идя по улице Карповича. Мужчина намеревался реализовать 4,2 килограмма некурительного табачного изделия. По суду он арестован на 12 суток.

ТОЧКА ЗРЕНИЯ



Александр ФЕДУТА

## Одним Шкловом меньше

За прошедший год население Республики Беларусь опять уменьшилось – на 16.181 человека. Для справки: население города Шклова составляет около 17.800 человек. Грубо говоря, одним Шкловом в Беларуси стало меньше.

Министр Ирина Костевич объясняла это на недавней пресс-конференции просто: сейчас рожают те, кто родился в «лихие девяностые». Наша страна, как и большинство постсоветских европейских государств, попала в так называемую «демографическую яму». В те времена рожали мало, не будучи уверенными в завтрашнем дне, вот и сегодня те дети выросли, и, поскольку их меньше, то и рожают они соответственно меньше.

Этим, кстати говоря, объясняли и необходимость повышения планки пенсионного возраста. Дескать, работать некому.

Действительно, работать некому.

А кому работать – и где работать?

Экономическая политика до недавнего времени строилась в основном на том, чтобы поддерживать на плаву наши любимые государственные гиганты. При этом поддерживали их странным образом – так, что год от года сокращалось число работающих. А поскольку малый и средний бизнес все это время, грубо говоря, гнобился, многим людям работать было негде. Пока шли дешевые вливания в строительную отрасль, некоторые работали там. Но вот кризис коснулся и этой сферы.

Что еще у нас поддерживали государственными деньгами? Сельское хозяйство? Ну, и насколько стабильно сегодня население в белорусской деревне? Стабильно оно там лишь по возрастным показателям – стареет. А по численности – нет, не держится, мигрирует. Пятая часть белорусов живет в столице, где экономическая жизнь – по крайней мере по видимости своей – кипит. В остальном – все уезжают.

Нет, я не против внутренней миграции. Страна внутренних мигрантов – это нормально; человек ищет, где лучше. Но помню, как посольство Германии организовало для группы журналистов путешествие по бывшим землям ГДР. Давно это было, я работал тогда в «Белорусской деловой газете», светлая ей память. Вот тогда и понял я, что такое борьба с чрезмерной внутренней миграцией. Это когда государство не собственные деньги вкладывает, а инвестора привлекает. Когда промышленность развивается не по указке сверху, а согласно экономической логике. Появляются новые рабочие места – появляется жизнь. Молодежи проще найти рабочее место, создаются семьи, рождаются дети. Все просто. Только рабочие места должны возникать, так сказать, естественным путем, а не методом начальственного «тыка»: вот построим там завод по производству целлюлозы – и жизнь закипит!

Что, закипела жизнь?

В германском городе Людвигсхафене – слышали о таком? – концерн BASF, гигантское химическое предприятие, ни у кого не вызывает раздражения. Никто не проводит митингов с требованием закрыть его. Просто потому, что экологическая политика в Германии прозрачна, как вода, используемая концерном для производства. В любой момент любой журналист может получить необходимую информацию. Граждане, живущие в городе, могут получить нужные сведения. Все знают обо всем, что происходит. И бургомистр города, которому нужно будет переизбираться, лично следит за тем, чтобы на предприятии, являющемся крупнейшим работодателем Людвигсхафена, экологическая безопасность была на должном уровне. И владельцы BASF точно знают: любая попытка сэкономить на этой статье расходов немедленно приведет к гигантскому скандалу, который ударит в том числе и по их доходам.

Поговорите с населением любого белорусского города, где возникают проблемные ситуации вокруг строящихся предприятий. Нет, люди не против создания новых рабочих мест. Они просто не верят в их безопасность – потому что им не открывают всю информацию, многое делается за закрытыми дверями. Прочтите репортажи с митингов, и вы увидите, как некоторые чиновники разговаривают с населением. Свысока. Надменно. По принципу: будет так, как начальство сказало, а вы, граждане, никто, и фамилия ваша… Кстати, как ваша фамилия?..

Оттого, собственно говоря, зачастую инвестиционные проекты и становятся точками возгорания общественной напряженности. Нет веры власти. Не важно какой – районной, областной, республиканской. А нет веры – нет уверенности в завтрашнем дне. Молодежь ищет, куда бы уехать. И уезжает – чтобы там заводить семьи и там рожать.

И процесс этот, похоже, никто не стремится останавливать. Геронтократическое государство, десятилетиями ориентировавшееся на «чарку и шкварку» для пенсионеров, дошло до того, что многие пенсионеры и чарку со шкваркой себе позволить не могут, и работать вынуждены – не потому, что хотят, а потому, что вынуждены, нужно же как-то концы с концами сводить.

Осторожная, с оглядкой экономическая либерализация, проводимая сегодня господами Каллауром и Румасом, на мой взгляд, не скоро восстановит доверие к государству. А значит, каждый год на протяжении ближайшего десятилетия мы, возможно, будем терять по одному Шклову.

ПАЛІТКУХНЯ

Юрась ГУБАРЭВІЧ:

## «25–30 тысяч удзельнікаў мітынгу – рэальная лічба»

*Кіраўнік руху "За Свабоду" распавёў "Народнай Волі" пра мерапрыемства, якое плануецца правесці ў Дзень Волі.*

Нагадаем, што не так даўно аргкамітэт па святкаванні Дня Волі ў Мінску, куды ўвайшлі «Арт Сядзіба» і Партыя БНФ, падаў заяўку ў Мінгарвыканкам на правядзенне святочных мерапрыемстваў. У заяўцы арганізатары просяць дазволіць 24 сакавіка шэсце ад вуліцы Кастрычніцкай да стадыёна «Дынама», дзе пройдзе мітынг і канцэрт. Гарадскія ўлады на заяўку пакуль не адказалі.

Учора стала вядома, што Аб'яднаная грамадзянская партыя, Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада) і рух «За Свабоду» таксама падалі ў Мінгарвыканкам заяўку на правядзенне мітынгу 25 сакавіка ля Вялікага тэатра оперы і балета.

**– Чаму вы прынялі рашэнне праводзіць яшчэ адзін мітынг, прысвечаны Дню Волі, а не аб'ядналі высілкі з іншымі арганізатарамі святочных мерапрыемстваў?** – запытаўся я ў старшыні руху "За Свабоду" **Юрася Губарэвіча.**

– Тыя, хто вырашыў ладзіць канцэрт 24 сакавіка, самастойна прымалі гэтае рашэнне, – кажа мой суразмоўца. – Мы вітаем іх памкненні, але ў той жа час разумеем, што фармат такой акцыі – гэта больш нейтральна-святочны.

Натуральна, што для беларусаў абвяшчэнне БНР – гэта ў першую чаргу святочны дзень, але ж маюць права на жыццё і іншыя варыянты таго, як можна адзначыць гадавіну даты. І мы зрабілі акцэнт менавіта на палітычным мерапрыемстве, бо ў найноўшай гісторыі Беларусі Дзень Волі заўсёды нёс палітычнае пасланне. А ў сённяшніх умовах тым больш актуальна сказаць словы ў падтрымку незалежнасці краіны.

**– Чырвонай лініяй на мерапрыемстве будзе праходзіць тэма суверэнітэту?**

– Безумоўна. Наша галоўнае пасланне – дэнансацыя ўсіх саюзных пагадненняў, што былі падпісаны яшчэ ў 1990-я гады, і абранне іншага шляху для Беларусі, які пазбавіць нас ад рознага кшталту залежнасці ад Расіі – эканамічнай і палітычнай.

**– Чаму абралі месцам правядзенне мітынгу пляцоўку ля Опернага тэатра?**

– У мінулым годзе на гэтае месца быў атрыманы афіцыйны дазвол гарадскіх улад, а гэта азначае, што няма ніякіх аб'ектыўных прычын забараніць правядзенне масавага мерапрыемства. Заяўка пададзена практычна ў тым жа самым фармаце, што і год таму. Не выключана, што ў гэтым годзе акрамя мітынгу таксама будзе невялікі канцэрт. Будзем глядзець па сітуацыі.

Увогуле, як мне падаецца, гэтае месца было пазітыўна ўспрынята вялікай колькасцю грамадзян Беларусі, бо ў мінулым годзе сюды прыйшлі дзясяткі тысяч людзей. Гэта дастаткова годнае месца, каб адзначыць Дзень Волі і агучыць нашы палітычныя лозунгі.

**– Мітынг, паводле заяўкі, разлічаны на 25–30 тысяч чалавек. Даволі аптымістычна, калі ўлічваць, што мерапрыемства вы плануеце правесці ў панядзелак, а збор удзельнікаў запланаваны на 16.00…**

– Лічу, што 25–30 тысяч удзельнікаў мерапрыемства – даволі рэальная лічба. Сам мітынг мы плануем правесці з 18.00 да 21.00, а збор удзельнікаў прызначылі на дзве гадзіны раней адмыслова, каб мець магчымасць падрыхта-вацца.

У мінулым годзе міліцыя вельмі дакладна сачыла, каб мерапрыемства не пачалося хаця б на хвіліну раней і не закончылася хаця б на хвіліну пазней.

**– На правядзенне гэтага мітынгу таксама будзе аб'яўлены збор сродкаў?**

– Яшчэ раней тыя людзі, якія займаюцца зборам грошай на правядзенне мерапрыемства на "Дынама", публічна заявілі, што сабраныя сродкі павінны пайсці на рознага кшталту святочныя мерапрыемствы да Дня Волі. Не толькі на канцэрт, але і на любыя іншыя фарматы. Таму будзем агітаваць, каб беларусы дапамаглі гэтаму праекту.

**– На ваш погляд, ці задаволяць улады вашу заяўку?**

– На сёння я не бачу ніякіх перашкод, каб адмовіць нам у правядзенні мітынгу. Мы ўсё робім у межах закона. Тым больш ёсць практыка мінулага года, калі з боку ўлад не было ніякіх пярэчанняў, каб правесці мерапрыемства такога ж фармату.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

СУД!

### За хабар – 7 гадоў калоніі

Вынесены вердыкт яшчэ па адной крымінальнай справе, звязанай з карупцыяй у медыцынскім асяроддзі. Суд Драгічынскага раёна вызначыў 7 гадоў калоніі былому дырэктару ААТ "Экзон" **Валерыю Васкевічу**. Такі тэрмін зняволення ён атрымаў за хабар у асабліва буйным памеры – 25 тысяч долараў – за забеспячэнне выканання кантрактаў на пастаўку фармацэўтыкі, а таксама спецыфікацый да іх на карысць жыхара Мінска і дзвюх замежных асоб.

Калі прыгавор суда ўступіць у сілу, то В.Васкевічу давядзецца адбываць пакаранне не проста за кратамі, а ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

**Зінаіда ВОДЧЫЦ.**

ПОСТСКРИПТУМ









## Бывай, чемпионат европейский, ждем мировой…

По данным Белорусского союза конькобежцев, чемпионат Европы по фигурному катанию, который прошел в Минске, посетили 105 тысяч зрителей. Из них 90 тысяч купили билеты, а 15 тысяч мест были выделены для сотрудников организаций.

Соревнования освещали более 400 представителей национальных и международных СМИ.

На соревнованиях были разыграны четыре комплекта наград. У мужчин выиграл испанец **Хавьер Фернандес**, у женщин – россиянка **Софья Самодурова**, в соревновании парников – французский дуэт **Морган Сипре и Ванесса Джеймс**, а в танцах на льду – их соотечественники **Гийом Сизерон** и **Габриэлла Пападакис**.

Что ж, после великолепной организации турнира европейского уровня Минск может с таким же успехом принять и чемпионат мира по фигурному катанию.

СПАДЧЫНА

## Агінскі вяртаецца ў Слонім

У Слоніме сёлета будзе ўсталяваны помнік кампазітару і грамадскаму дзеячу Міхалу Казіміру Агінскаму (1730–1800). Працу над ім завяршае мясцовы скульптар Уладзімір Вількіцкі. М.К.Агінскі браў актыўны ўдзел у змаганні за незалежнасць Краю супраць Расійскай імперыі, пасля паражэння быў вымушаны з'ехаць на эміграцыю – у Берлін і Вену. Вярнуўшыся пасля амністыі на радзіму, Агінскі жыў у родным Слоніме, дзе пабудаваў тэатр – вядомую на той час "сядзібу муз", зала якой змяшчала да 1000 гледачоў.

**Антон ЗАГОРСКІ.**

РАЗВІТАННЕ

## Памёр паэт Люцыян Шчасны

З вёскі Хрыстова, што на Пастаўшчыне, прыйшла сумная вестка – на 78-м годзе жыцця там памёр паэт, сталы падпісчык "Народнай Волі" Люцыян Шчасны. Ён меў усяго тры класы адукацыі, працаваў пастухом у калгасе і – пісаў вершы. Сабраныя ў тры саматужныя зборнічкі, яны простыя і даходлівыя, за што вяскоўцы і цанілі паэта:

*Ляжаць самотна агароды*
*Каля пакрыўленых платоў.*
*Чаго няведама так шкода,*
*Што я расплакацца гатоў.*
*Сябе шкада, ці то Хрыстова,*
*Якое пад вясенні гром*
*Ізноў развітацца гатова*
*З чарговым хворым жыхаром...*

Паводле слоў грамадскага актывіста Змітера Лупача, Люцыян Шчасны меў надзвычай добрую душу, на сваёй сядзібе ўсталяваў больш за дзясятак шпакоўняў, а журналістам, якія завіталі да яго, гаварыў: "Заўсёды шукайце праўду і пішыце толькі праўду".

Пахавалі Люцыяна Шчаснага ў роднай вёсцы.

**Антон ЗАГОРСКІ.**

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

# Рыгор Барадулін, беларуская Незалежнасць і дэмакратыя




У мінскім прыватным выдавецтве "Кнігазбор" выйшаў пяты том "Дзённікаў і запісаў" народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна, укладзены даследчыцай і паэткай Наталляй Давыдзенка. Том адметны тым, што ён змяшчае нататкі, зробленыя нашым выдатным майстрам слова ў пераломны для Беларусі час – 1989–1991 гады, эпоху расчаравання ў палітыцы перабудовы і абвяшчэння незалежнасці Рэспублікі Беларусь. Натуральна, што ў гэтым томе палітычныя пытанні занялі куды большае месца, чым у папярэдніх чатырох. Мяркую, што ў сённяшні трывожны для нашай Незалежнасці час тагачасныя, найчасцей зусім не прызначаныя для публікацыі занатаваныя Рыгорам Барадуліным падзеі і думкі пра іх застаюцца цікавымі і актуальнымі.

Найбольш бескампрамісны Барадулін у сваіх запісах 1991 года, калі напраўду наша нацыя падышла да той мяжы, за якой стаяла рэальная пагроза яе знікнення. Паэт неабыякавы да ўсяго, што ён бачыць, і менавіта таму сёння некаторыя яго словы могуць падацца недзе і залішне завостранымі, але, бясспрэчна, выпакутаванымі… Што ж, дамо слова самому Паэту (паўтараю: гэтыя запісы адносяцца да 1991 года):

"*3 студзеня, чацвер*. Галоўны метад КДБ – раскол нацыі. Пры акупацыі Польшчы немцы не змаглі знайсці палякаў у паслугачы. Цяпер ствараецца "Грамада", як быццам у БНФ нельга палітычна разгарнуцца. Партыя злачынцаў і КДБ будуць дапамагаць ствараць партатыўныя, кішаньковыя партыі, яны не пагроза, галоўная пагроза – БНФ. А гэтыя партыйкі будуць размываць нацыянальны рух, будуць чубіцца з падтрымкай партапаратчыкаў і берыеўцаў…

*12 студзеня, субота.* Званіў Васіль *(Быкаў. – **Л.Б.**)*. Сапраўды, Літву акупавалі, як пасля вайны, жулікі…

*13 студзеня, нядзеля*. Нешчаслівая лічба для братоў нашых літоўцаў. Рожкі імперыялізму вылезлі і ў Мішы *(Гарбачова)*, і ў вайскоўцаў. Паўтор Чэхаславакіі, толькі на бліжэйшай дыстанцыі.

Хадзіў на мітынг каля Дома ўрада, пад навагодняй ялінай насупроць пакрыўджанага БНФ дзядулі Вовы *(помніка Леніну)*. Добра выступаў Зянон *(Пазьняк. – **Л.Б.**)*. Хай беражэ яго Бог… Ахоўваць яго трэба ад партбанды…

*24 студзеня, чацвер*. Сойм БНФ. Адкрыў Зянон Пазьняк. "Любая ўспышка незадаволенасці выгодная, каб увесці прэзідэнцкае праўленне… Пралічаны пэўныя варыянты, ці польскі, ці які іншы… Нас заганяюць у Саюз танкамі, рэспубліка бяспраўная"…

*12 лютага, аўторак.* Пазваніў у Маскву, пацвердзіў, што падпісваю ліст у абарону дэмакратыі…

*22 лютага, пятніца.* Дзень добры, Рыга! На душы цёпла. Вяртанне да нейкіх вытокаў, вяртанне трывожнае і небезнадзейнае. Добра, што ёсць Прыбалтыка, хоць сцёртая, але манета Еўропы, якая прадзірае кішэні ўсім крамлёўскім "імператарам"…

*26 лютага, аўторак.* У Рызе на радыё запісаўся са зваротам да братоў-беларусаў, каб мы падтрымалі пры апытанні і незалежнасць Латвіі…

*2 сакавіка, субота*. З Кнутам Скуеніекам *(латышскі паэт і дысідэнт савецкага часу. – **Л.Б.**)* прайшлі ўздоўж мора. Расказаў пра справы ў Балтыі. У Латвіі партыя злачынцаў поўнасцю правалілася. Хіба на штыках і танках вяртаць… Наогул, латышы народ загадкавы, яны як бурштын – агонь унутры…

*24 сакавіка, нядзеля*. Званіў Васілю *(Быкаву)*. З'езд БНФ прайшоў добра. Мяне зноў абралі ў *(сойм)* БНФ. Ні ў якую партыю не пайду, а пакуль БНФ у няміласці ўлад, ганаруся, што я член БНФ, член сойма. Абрэвіятура блізка БНР…

*4 красавіка, чацвер*. … Нарэшце рабклас выйшаў на дэманстрацыю… Звычайна так званы рабочы *клас* – апора партыі злачынцаў і русіфікацыі. Супраць нацыянальнага ўсяго, як цюцька, цкавалі… А як эканамічна адчулі, дык трохі ачухаліся…

*11 мая, субота*. Сойм БНФ. *(Пераказваюцца тэзісы выступлення Зянона Пазьняка. – **Л.Б.**)* …Тактыка апазіцыі палягае на наступных, неабходных для змен палітычных умовах: трэба… наданне канстытуцыйнага статусу суверэнітэту і дэпартызацыя…

*13 ліпеня, субота*. Сойм БНФ. *(Падкрэслены словы з выступлення Зянона Пазьняка. – **Л.Б.**)* … Нейтральная, бяз'ядзерная дзяржава Беларусь! Палітычна прыцягальны і зручны для нас тэзіс. Бралі пазіцыі, распрацаваныя Радай БНР…

*19 жніўня, панядзелак*. … Пераварот на чале з часовым Янаевым, камсамольска-кадэбісцкім кадрам, бабнікам і выпівакам… Пад вечар званіў Васіль *(Быкаў)*: "Цяпер ужо ноч перажыць важна, бо ўначы якраз усё страшнае ды бруднае робіцца"…

*21 жніўня, серада.* …Радыё Расіі перадало радасную навіну, што хунце скруцілі галаву. Гэта пакуль. Бо пакуль існуе ва ўладзе партыя злачынцаў – КПСС, пакуль армію ўзначальваюць гарылы… пакуль КДБ кіруе ўсім, у любы дзень можна прачнуцца ў 1937 годзе…

*24 жніўня, субота.* …Няўжо дасць Бог, што партыя д'яблаў, крымінальнікаў рухне? Усё яны спаганілі, усё яны добрае, святое з душаў людскіх выкарчавалі. Няўжо ж не будзе ім уздадзена па заслугах?.."

*25 жніўня, нядзеля*. … Добрая навіна. Аб'яўлена нашым Вярхсаветам незалежнасць БССР! Саюза няма… Зянон *(Пазьняк)* з ягонымі паплечнікамі – чыстая сляза ў твані камуністаў. Нават Жук *(тагачасны парламенцкі аглядальнік Белтэлерадыё. – **Л.Б.**)* змушаны быў даць па праграме "Час" Зянона. Вось хто быў бы прэзідэнтам…

*5 верасня, чацвер*. Праца. Скончылася гаварыльня ў Маскве *(пяты і апошні з'езд народных дэпутатаў СССР. – **Л.Б.**)*. Доўга яшчэ будзе камуністычны смурод зрываць насы ўсяму свету…

*7 верасня, субота.* …З будынка насупраць туалета Купалаўскага тэатра *(тагачасны будынак ЦК КПБ на вуліцы Карла Маркса ў Мінску. – **Л.Б.**)* раней выходзілі чынна. Цікава – адзін насупраць другога – будыніна ЦК і туалет. Супрацьстаялі. Туалет выстаяў і перамог, бо людзям больш неабходны быў і застаецца…

*12 верасня, чацвер*. …Выступаў у вучылішчы алімпійскага рэзерву №1. …Моладзь мяняецца, былі дужа цікавыя пытанні наконт БНФ. І спартсменаў ужо крыху праняло палітыкай…

*19 верасня, чацвер*. Нарэшце наш так званы спартыязаваны, паралізаваны парламент прыняў Бел-Чырвона-Белы і Пагоню. Усё гэта дзякуючы Народнаму Фронту і спадару Зянону Пазьняку...

*28 снежня, субота.* …Вечарам званіў Васіль *(Быкаў)*. Прарочымі былі рэзкія на першы погляд словы Зянона Пазьняка наконт расійскага менталітэту. Расійская імперыя паказвае пакуль кіпцікі, а неўзабаве ашчэрыць іклы…"

Прайшло 27 гадоў з той пары, калі Рыгор Барадулін рабіў гэтыя нататкі. Што адбылося? Суседняя імперыя сапраўды шчэрыць і шчэрыць іклы. Дзеячы той партыі, для якой Рыгор Іванавіч не шкадаваў негатыўных дэфініцый, па-ранейшаму на ўсіх ключавых пасадах і ў Беларусі, і ў нашых суседзяў. Бел-чырвона-белы сцяг і Пагоня фактычна пастаўленыя па-за законам. Зянон Пазьняк ужо 22 з паловай гады вымушаны жыць далёка ад Бацькаўшчыны. І ўсё-такі надзея, якой жыў вялікі Паэт, сучаснік нашага пакалення, жыве.

Застаецца дадаць, што пяты том "Дзённікаў і запісаў" Рыгора Барадуліна яшчэ можна набыць у кнігарнях "Белкнігі".

**Лявон БАРШЧЭЎСКІ.**

С МОЕЙ КОЛОКОЛЬНИ



Елена МОЛОЧКО

# Зачем построят танк на книжной выставке?

На международной книжной выставке-ярмарке, которая откроется в Минске через неделю, главным «сюрпризом», как анонсируют официальные источники, станет… танк. Не настоящий – книжно-бумажный. Такая вот инсталляция. По великой задумке Министерства информации его создадут все желающие из тех книг, которые они купят на выставке или даже принесут из дома (понятно, что школьники и студенты уже получили задание…). Этот незамысловатый креатив посвящен 75-летию освобождения нашей республики от немецко-фашистских захватчиков. Он вызывает разнообразные чувства, первое из которых лично у меня – отторжение.

При всем благоговении перед памятью о Великой Отечественной войне идея книжного танка мне кажется убогой, отсталой, малокультурной. И даже вредной. Ведь мирных танков не бывает. Танк – это всегда агрессия. И даже если она интеллектуальная, книжная, как в данной метафоре, то также опасна и нежелательна. Мысль насильно передать нельзя, ее можно осторожно посеять, долго и трепетно взращивать, терпеливо ждать плодов. А если мысль продвигать с боем, то она уже будет называться пропагандой, зомбированием. Собственно, по-другому – не силой – танк разве может действовать? Конечно нет! Это суть бронированной машины – давить, стрелять, уничтожать (даже если это происходит при защите чего-то святого). И никакой дискуссии, никаких раздумий и сомнений. И что же мы тогда провозглашаем, устанавливая танк из книг?

Да, военное прошлое страны – это святая память, мы всегда будем отдавать должное народному подвигу. Но это не должно мешать нам осознавать, что современная военщина – бремя, оковы, угнетение общества. Это наше человеческое несовершенство, мы, как и древние варвары, не научились пока справляться с собственной ненавистью и до сих пор решаем многие проблемы с оружием в руках. И только потом садимся за стол переговоров. Да, достаточно примитивно: без кровопролития мысль часто просто не начинает пульсировать. И это вынуждает все государства мира содержать огромные армии, отрывая в том числе от образования – именно от книги! – великие материальные средства.

Если вдуматься, то мы, белорусы, просто повенчаны с прошедшей войной, она у нас в крови, в подсознании – и на поколения вперед. Хорошо ли это? Нет, мы такую судьбу не выбирали специально. Это наше историческое бремя. Конечно, лучше быть страной только добрых символов и метафор – васильков и аистов, бульбы и «Лявонихи». Вот, например, Швейцария – страна часов, шоколада и сыра. Или Норвегия – страна фьордов. Австрия – страна Моцарта. Нам такого счастья не выпало… Наша Беларусь долгое время называлась республикой-партизанкой. Если вспоминали нашу киностудию, то часто в шутку как «Партизан-фильм». Сейчас один из независимых информационных ресурсов даже называется «Белорусский партизан». Грустная ирония… И даже популярная на весь мир белорусская онлайн-игра тоже на военную тематику: «World of tanks» («Мир танков»). По городам и весям Беларуси уже 75 лет стоят настоящие бронированные машины, боевые орудия – вот какие у нас памятники-символы. И нельзя сказать, что они украшают наши улицы, но мы понимаем их великое значение. Но зачем, зачем же нам еще танк из книг?!

В Мельбурне, например, десять тысяч книг, подсвеченных светодиодами, выложили на несколько улиц города. Вечером они как текущие реки – реки памяти и знаний. Это восхищало и завораживало. Вот где настоящая художественная метафора! Из книг в Европе художники строили ульи, дома, лабиринты, деревья – самые мирные символы, самые многозначительные. И никогда – оружие. Человечество мечтает, чтобы книга наконец победила танк, чтобы наш разум наконец оседлал агрессию. «Иди и сторожи в себе человека!» – говорит Светлана Алексиевич. Иди и читай. Не отдавай свою книгу танку.

ПАДЛІЧЫЛІ...

## Залаты запас вырас на адну тону

На 1 студзеня 2019-га ён складаў 41,2 тоны, інфармуе Нацыянальны банк.

Залаты запас складаецца з банкаўскіх зліткаў. Ён захоўваецца ў Цэнтральным сховішчы Нацбанка, змешчаны на рахунках і ў дэпазітах у замежжы.

На 1 студзеня 2019 года золатавалютныя рэзервы Беларусі склалі 7 млрд 157,6 млн долараў.

АМБИЦИИ

# Сергей ЧЕРЕЧЕНЬ: «Мы должны изменить ситуацию»

*Глава партии «Белорусская социал-демократическая Грамада» Сергей Черечень написал письмо в Администрацию президента России и на имя посла России в Беларуси Михаила Бабича с просьбой включить представителей партии в рабочие группы по обсуждению белорусско-российских отношений. С аналогичным предложением Черечень обратился к Александру Лукашенко.*



«Многие заявления, которые идут со стороны Администрации президента, очень часто не соответствуют их действиям, – говорит Сергей Черечень. – И если мы не будем понимать, что происходит в белорусско-российских вопросах, то в один день мы можем узнать, что Беларусь вошла в состав Российской Федерации уже по факту, например, из телевизора. При этом нам будут полгода или даже год утверждать, что объединения не будет. Поэтому, пока мы не будем находиться в тех кабинетах, где проходят двусторонние встречи, мы не сможем контролировать ситуацию».

«Народная Воля» поинтересовалась, верит ли Сергей Черечень в позитивный исход дела?

«Я постараюсь сделать все для того, чтобы представители нашей партии были в составе этих рабочих групп, – говорит Черечень. – Для нас это принципиальный вопрос».

КСТАТИ

## Выборы могут быть нелегитимными, но участвовать в них надо

*Об этом Сергей Черечень заявил на собрании членов центрального совета партии, которое на днях состоялось в Минске.*

«Я согласен с тем, что очередные выборы могут быть нелегитимными, постановочными, но тем не менее каждая политическая организация, которая хочет присутствовать на политической арене страны, должна участвовать в выборах, пусть и в эфемерных, – говорит он. – Мы должны заявлять, что есть альтернатива существующей власти, мы должны заявлять, что мы есть и мы работаем как внутри страны, так и за ее пределами. Мы должны нашим партнерам за рубежом показать, что в стране есть сила, которую можно будет поддержать, с которой можно договориться. Сейчас этого нет. Сейчас есть разрозненная оппозиция, есть люди, которые достаточно долго находятся на верхушке оппозиционной политической системы. Мы должны изменить эту ситуацию. Мы должны показать, что мы – движущая сила страны. Без участия в парламентских выборах мы не сможем развиваться дальше и масштабироваться. Если мы не участвуем в этих выборах – нас просто нет».

Правда, программы, с которой БСДП (Грамада) пойдет на выборы, пока нет.

«На заседании центрального совета мы как раз говорили о том, что программа должна составляться с учетом реалий сегодняшнего дня, пока мы над ней еще работаем».

**Марина ВИШНЕВСКАЯ.**

ПРЯМАЯ РЕЧЬ



# Вадим ДРАЖИН: «Мы стараемся не терять людей…»

*Недавно был скандал с Белорусским союзом дизайнеров, из которого за неуплату взносов могут исключить около сотни известных персон. А вот долги по членским взносам членов общественного объединения «Белорусский союз архитекторов» указаны прямо на сайте – в специальной таблице напротив фамилии каждого члена союза. У кого-то не уплачено за год, у кого-то за три года. Но есть и те, у кого отмечена переплата. Первый заместитель председателя ОО «Белорусский союз архитекторов», кандидат архитектуры, начальник управления проектных работ ЗАО «Белзарубежстрой» Вадим Дражин не скрывает: проблемы с уплатой членских взносов есть, но задолженность не критичная.*

– Уплата членских взносов прописана в уставе, это святая обязанность членов Союза архитекторов, на сегодня это 2,5 базовые величины в год для практикующих архитекторов, – *говорит Вадим Владимирович Дражин.* – Есть предел по времени, когда мы, скажем так, еще закрываем глаза на задолженность. А затем совет союза принимает решение об исключении. У нас ведется постоянный учет оплаты членских взносов.

В соответствии с уставом Белорусского союза архитекторов исключение может произойти по разным причинам, в том числе и за неуплату членских взносов в течение 3-х лет. Но дело в том, что долги по членским взносам в основном имеются у людей пенсионного возраста, которые не имеют стабильного дохода, а также у тех, кто имеет низкий доход и не способен оплачивать взносы. В этом случае мы предусматриваем специальные возможности отсрочки, частичное погашение взносов.

Мы систематически делаем обзвон должников. Кто-то платит, кто-то нет. Но это управляемая ситуация, она не критична. Мы пытаемся сохранить людей в союзе.

**– Есть мнение, что творческие союзы сегодня переживают не лучшие времена…**

– Да, это очень похоже на правду.

Белорусский союз архитекторов – единственный союз, объединяющий архитекторов, градостроителей, педагогов, практикующих архитекторов. Союз существует за счет собственной деятельности, которая не является коммерческой. Это в советские времена на творческие союзы выделялись определенные бюджеты и можно было вести постоянную деятельность, иметь аппарат союза, обеспечивать мероприятия, пропаганду и так далее. Основной целью союза является пропаганда профессии архитектора и архитектурно-градостроительной политики страны. Мы объединяем достаточное количество архитекторов – в нашем союзе более 600 членов.

Проводим различные мероприятия, конференции, «круглые столы» по разным вопросам профессиональной деятельности, фестивали архитектуры, но это разовые мероприятия, для участия в которых приглашаем генеральных спонсоров. У нас нет отдельных бизнес-структур, мастерских, которые приносили бы доходы в виде постоянных финансовых поступлений.

Союз архитекторов мог бы себя полностью обеспечивать – например, по аналогу с зарубежными странами, где союзы архитекторов выполняют функции архитектурных палат, например, выдают аттестаты или лицензии для архитекторов, а также решают ряд других задач. Но у нас выдачей лицензий занимается не профессиональная независимая структура, куда входят опытные архитекторы, профессионалы своего дела, а республиканское унитарное предприятие «Белстройцентр», подчиненное Министерству архитектуры и строительства.

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## Збіраюць гэткую даніну, што проста сорам за краіну

«Еўрарадыё» сабрала розныя прыклады беларускага хабару ў мінулым годзе. Здзіўляе, што часцей за ўсё хабарнікі не грэбавалі драбязой, бралі марожанае, пельмені, масла, каньяк, парфуму, блакноты, ручкі, календары і г.д.

На ўсёй зямлі «бяруць на лапу»!
Дары падносяць тут і там
Прафесару і эскулапу,
Бандыту, каб не даў у храпу,
Але часцей за ўсё – чынам.
Там, дзе жывуць заможна людзі
(Прычым здаўна, спакон вякоў),
Чыноўнік нейкі браць не будзе,
Як кажуць, гончых шчанюкоў.
Калі і возьме ён, дык грошай,
Напэўна, цэлы чамадан,
Каб мог пражыць ён з гэтай ношай
Да самай пенсіі, як пан.
У нас таксама не вароны
(Вядома стала кагадзе),
Ды заграбаюць не мільёны,
А лік на тысячы ідзе.
І то – вышэйшая эліта,
Ці, так сказаць, улады цвет.
Глядзецца хочуць самавіта,
Жадаюць жыць яны як след.
А дробныя, як кажуць, сошкі
Або мясцовыя тузы
Гатовы падбіраць і крошкі,
Ім досыць нават драбязы.
Калі камусьці шыюць справу
У раз чарговы следакі,
Дык проста сорам за дзяржаву:
Чыноўнікі – як жабракі.
Пачуўшы, што «на лапу» хтосьці
Узяў трохзорачны каньяк,
Не адчуваеш лютай злосці:
Напой харошы як-ніяк.
Калі ж чынок не грошы ў жмені
Прыняў дарункам, як заўжды,
А спакусіўся на пельмені –
Ажно кіпяць мае глузды.
Уражанне, што згаладалі
Наогул нашыя чыны,
Не елі смачных страў гадамі –
Нібыта ў цяжкі час вайны.
Адзін з вантробамі прадаўся
Камусь за кольца каўбасы,
Нібы ягоная яда ўся –
З кавалка хлеба і камсы.
Узяць марожаным даніну
Другі згадзіўся. Думаў так:
«Аддам яго дачцэ ці сыну
І сэканомлю свой пятак».
Схіляюць хабарнікаў чэрці
Да іншых дробязных даброт.
Прыняў прэзентам, скажам, трэці
Аловак, ручку і блакнот.
Ёсць і ў чацвёртага выгода –
Яму здарылі каляндар.
Пра «здзелку» на працягу года
Нагадваць будзе гэты дар!
* * *
Хіба ж, скажыце, «куш шалёны» –
Аловак, ручка і блакнот?
Пакуль не станучь браць мільёны,
Не будзе добра жыць народ…

### Манія

У машын
Ёсць сапраўдная манія –
Так здаецца, прынамсі, падчас:
Нараджаюцца дзесьці ў Германіі,
Паміраць прыязджаюць да нас.

### Аб'ява

Пэўна, быў дзядуля хватам:
«Здам кватэру двюм дзяўчатам,
Калі дзеўкі – маладыя.
Трох не здам.
Гады не тыя…»

### Наўскасяк

Абрам радзіў Ісака…
Кагось радзіў Ісак…
Аднак жа неўзабаве
Пайшло ўсё наўскасяк,
Бо з нейкае прычыны
Раджалі ўжо жанчыны.

### Пачастуе ўнучку

Дзед працягнуў рублі-паперкі:
– Марожанае і цукеркі…
– Унучку пачастуеш, дзед?
– Яшчэ і пачак цыгарэт!

### Дзядзькі і дзеці

Так цяпер бывае найчасцей,
Так, бадай, было спакон вякоў:
Дзядзькамі палохаюць дзяцей
І дзяцьмі палохаюць дзядзькоў.

### Гадасці

Я вось на розум ніяк не вазьму:
Людзі звычайныя
Многа
Гадасцей робяць адзін аднаму,
Просяць прабачэць – у Бога…

### На вясковай дыскатэцы

Бадай, запомніў я навекі,
Прынамсі, помню з даўніх пор:
Калі з вясковай дыскатэкі
Усё-ткі выбрацца на двор
І, лежачы, глядзець на зоры,
На месяц, што даўно ўзышоў,
Тады праз тэрмін некаторы
Спыніцца можа з носа кроў…

ВАС ЦІКАВІЦЬ…



*У апошні час многія дарожна-транспартныя здарэнні адбываюцца ў Беларусі з-за дзікіх звяроў. Няўжо іх так шмат развялося, што яны сталі сур'ёзнай небяспекай для аўтамабілістаў?*

Зінаіда МІЛЬКЕВІЧ.
Гродна.

# Звяроў у лясах стала значна больш

Напрыклад, колькасць аленяў павялічылася ў тры разы ў параўнанні з тым, што было дзесяць гадоў таму. Калі раней іх налічвалася пяць тысяч, то цяпер пятнаццаць тысяч. Намнога прыбывалася ласёў. Паводле апошніх падлікаў, іх у нашых лясах знаходзіцца трыццаць дзве тысячы, а было ў два разы менш – усяго шасцінаццаць тысяч. Рэзка падскочыла пагалоўе казуль – з пяцідзесяці тысяч да сямідзесяці.

Паколькі некалькі гадоў таму была аб'яўлена барацьба са «свіной чумой», то большую частку дзікоў давялося знішчыць: з прыкладна васьмідзесяці тысяч іх засталося ў беларускіх лясах менш за восем тысяч.

РЕЗОНАНС

# Объединения нужны такие, как в Европе

Прочитав статью Міхася Скобли «З якой печы ўпалі Высоцкая і Марзалюк?», я ничего нового для себя не открыл, но внутренний бунт заставил меня взяться за перо.

Я родился в Свислочском районе, в 20 километрах от родины Калиновского. Мои и деды, и родители говорили на белорусском языке и рассказывали, как местные белорусы в восстании 1863–1864 годов пытались с косами победить имперскую армию. Ясно, что это восстание было обречено. Но ведь есть же люди, сказавшие: «Лучше умереть стоя, чем жить на коленях!»

А по поводу «поляков-белорусов» скажу следующее. Несмотря на то, что многие в Гродненской области считают себя поляками, они говорят, как и все в данное время, на русско-белорусском языке, а в костелах идут службы на чисто белорусском. Я православный, то есть крещен в церкви, и иногда в полемике с каким-нибудь местным «поляком» говорю: «Слушай, меня крестили в церкви, тебя – в костеле, но мы и наши предки родились тут и говорим на одном языке. Так, может, я больше поляк, чем ты, хотя я считаю себя белорусом». В нашей деревне церковь не раз становилась то костелом, то церковью. И в давние часы, и в наше время – куда идет интеллигенция (шляхта), туда и движет остальной народ.

Сегодня просто необходимо признать нерушимость границ. А эти кивки в сторону Польши – это имперские страшилки России. У нас есть Республика Беларусь! У нас есть и будет язык! У нас люди будут знать свою историю! Не надо только бестолковых объединений!

Объединения нужны такие, как в Европе: каждая страна живет самостоятельно, имея общие правила.

Из России раздаются призывы некоторых людей о присоединении земель. Уважаемые, займитесь своей огромной территорией, и вы такое получите и будете такими обеспеченными, что вам других земель просто не захочется! Не воевать надо, а на земле работать! Чего вы там так испугались Америки? Разве там плохо живут? И ваши соотечественники там хорошо себя чувствуют, даже рожать едут в Америку.

Да, самостоятельность политическая требует самостоятельности экономической! Надо будет затянуть пояса – затянем. Но нам не надо пьяно-агрессивного присутствия, не надо рабовладельцев из числа зажравшихся российских толстосумов. Не надо помогать завоевывать Афганистан, Чечню, Сирию и т.д.

Наши предки с пустыми желудками шли с косами на агрессора, отстоим, если надо будет, Беларусь и мы, их потомки.

Но надо Александру Григорьевичу Лукашенко задуматься о столь поспешно заключенном в 1999 году договоре. Надо посмотреть на свое ближнее и дальнее чиновничье окружение. Пока мы не потеряли суверенитет, надо провести чистку от шелухи, которая способствует своим действием и бездействием ползучей интервенции.

Михаил СУХОЦКИЙ,
пенсионер.
Гродненский район.

ПИСЬМО В РЕДАКЦИЮ

# У меня украли сварочный аппарат…

Уважаемая «Народная Воля»!

Я обращаюсь по поводу кражи с веранды моего дома сварочного аппарата.

28 июня 2018 года я написал соответствующее заявление в Бешенковичский районный отдел внутренних дел. Прибывшая группа в составе его начальника А.М.Рыбакова, оперативного сотрудника А.Н.Моторо, следователя районного отдела Следственного комитета В.А.Панкевича, тщательно обыскав мой дом и хозпостройки и ничего противозаконного не обнаружив, уехала в соседнюю деревню и там нашла остатки провода от моего сварочного аппарата.

17 августа мне пришло уведомление от следователя В.А.Панкевича, в котором сообщалось, что заведено уголовное дело о краже сварочного аппарата, и мне предлагалось приехать и ознакомиться с материалами. К сожалению, с Панкевичем я не встретился из-за его отсутствия в отделе.

Почувствовав неладное, я обратился в районную прокуратуру. Шло время, а ответа не было. Тогда я написал в областную прокуратуру. После чего следователь В.А.Панкевич заявил, что он не видел и не знает, где и у кого был найден остаток провода от моего сварочного аппарата, – начал отрицать очевидное, хотя оперативный работник РОВД А.Н.Моторо утверждал, что его забрали в следственный отдел.

Видя, что кому-то нужно сорвать расследование уголовного дела, я 16 октября обратился в Генеральную прокуратуру Республики Беларусь. Не знаю, какие ответы (скорее – отписки) давали работники следственного отдела в вышестоящие органы, но предписания областной и Генпрокуратуры об объективном рассмотрении вопроса о краже сварочного аппарата не исполнены по сей день. Более того, 19 октября 2018 года я получил бумагу, в которой сообщалось, что расследование уголовного дела приостановлено из-за того, что не выяснено лицо, совершившее преступление. Согласитесь, с таким успехом можно отрицать, что земля вертится.

Прошу редакцию опубликовать мое письмо на страницах «Народной Воли», чтобы граждане Беларуси знали, как наши местные правоохранительные органы, долг которых бороться с преступностью, реагируют на очевидные факты, вызывая у людей негативное к себе отношение.

Петр Гаврилович ШИЛОВ,
житель деревни
Старые Ранчицы
Бешенковичского района.

*ОТ РЕДАКЦИИ*

Прочитав письмо П.Г.Шилова, мы, конечно же, обратили внимание на тот факт, что после его обращения в райотдел милиции на место совершения преступления выехала внушительная группа ответственных работников. Не будем вдаваться в детали расследования уголовного дела, но уверены, что известный всем телезрителям Анискин сказал бы: «Да пустяковое оно, в деревне каждый второй мужик укажет пальцем на виновника преступления». А тут, выходит, солидные спецы расписались в беспомощности. Не позорьте погоны, служаки! Возобновите плевое уголовное дело, накажите по закону того, кто позарился на чужое добро. В противном случае своей неудовлетворительной работой вы будете вызывать у людей отрицательное к себе отношение, подрывая таким образом авторитет власти.

ДИСКУССИЯ

## Пенсии должны быть одинаковыми у всех

Полностью согласен с Алексеем Ефимчиком в пенсионном вопросе. Более того, я считаю, что пенсия должна быть вообще для всех одинаковая!

Например 1000 рублей.

Почему у чиновника она 1200 рублей, а у строителя – 400? Один просидел до пенсии в теплом кабинете, а другой клал кирпичи на морозе и ветре. Почему водитель, который возит генерала, пойдет на пенсию в 45 лет, а водитель-дальнобойщик – в 63 года?

Я уже не говорю о депутатах с их особой пенсией: несколько лет просидел в теплом кресле, ни за что толком не отвечая и ни на что не влияя, потому что живем все равно не по законам, а по указам и декретам – и вот тебе бонус!

У тех, кто работает на высоких должностях и в силовых структурах, зарплаты неизмеримо выше, чем у простых тружеников народного хозяйства, хотя все одинаково нужны стране.

Потому и считаю, что пенсии должны быть одинаковыми для всех. В некоторых странах так и есть.

Михаил ХИЛЬМАНОВИЧ.

РЭЗАНАНС

# «Дзяцей трэба вучыць пры любой уладзе…»

Хачу падзякаваць «Народнай Волі» за апублікаваныя 9 студзеня ўспаміны Міхаіла Іоські пра зэльвенскага настаўніка Аляксандра Голуба. На яго, сумленнага чалавека, за савецкім часам было выліта столькі бруду! І толькі за тое, што ў часы нямецкай акупацыі ён стварыў у вёсцы Барадзічы беларускую школу, дзе навучаліся некалькі дзясяткаў дзяцей. Як і М.Іоська, я таксама была вучаніцай Аляксандра Міхайлавіча, толькі ўжо ў 1970-я гады.

А пазнаёміліся мы, калі я перайшла ў 8-ы клас. Прызнацца, да сустрэчы з Голубам я беларускую мову проста ненавідзела, бо ў малодшых класах нам яе выкладалі людзі, якія самі мову добра не ведалі. Да таго ж бацька мой па нацыянальнасці рускі, і дома мы размаўлялі толькі па-руску. А Аляксандр Міхайлавіч адкрыў мне сапраўдную прыгажосць беларускай мовы, і мая нянавісць неяк незаўважна перайшла ў любоў.

У школе я наведвала літаратурны гурток, які вёў Голуб. І аказалася, што мы ўсе – таленавітыя, нават вершы па-беларуску можам пісаць! Столькі гадоў прайшло, але добра помню, як настаўнік сядзіць за сталом, чытае верш і выстуквае рытм: «Праясняецца пагода, / бо вярнулася вясна. / Ўсё чакаеш, што прырода / ўстрапянецца ада сна». І нібы чую настаўніцкі голас: «Кожны ваш верш павінен гучаць як музыка! Без музыкі няма паэзіі». Так Аляксандр Міхайлавіч прышчапляў нам любоў да роднай мовы, да беларускай паэзіі.



Настаўніка добра ведалі і мае бацькі, бо ў Зэльве мы жылі на адной вуліцы. Памятаю, як ён, высокі, трохі прыгорблены, хадзіў міма нашай хаты на працу ў санаторную школу. За такую паставу Аляксандра Міхайлавіча называлі дзядзькам Канём. Вучні ж часта даюць настаўнікам мянушкі. Называлі па мянушцы, але паважалі. Голуб быў надзвычай добры чалавек, а для аднаго з вучняў, будучага пісьменніка Уладзіміра Ягоўдзіка, па сутнасці, стаў другім бацькам.

Прыгадваецца і непрыемны выпадак. Школьніцай я займалася ў школе юнага журналіста пры зэльвенскай раёнцы. І нам далі творчае заданне – да Дня настаўніка напісаць невялікі артыкул пра любімага педагога. Вядома ж, я напісала пра Аляксандра Міхайлавіча. Гэта быў 1977 год. Раптам мяне выклікаюць да галоўнага рэдактара, і ён давай сварыцца: «Пра каго ты напісала?! Твой Голуб – фашысцкі прыхвасцень!» Так лічыў не толькі рэдактар, гэта была думка ўсяго зэльвенскага начальства. А я пачала бараніць свайго настаўніка. Вядома ж, рэдактара не пераканала, ён выкінуў мой артыкул у сметніцу.

Аляксандр Міхайлавіч даведаўся пра той выпадак і з той пары, як мне здаецца, стаў яшчэ больш маўклівым і самотным. Пра тую школу пры немцах ён расказваў толькі мне і майму аднакласніку, здольнаму паэту Юрку Ленцу. Ён нам даваў і так тлумачыў: «Я проста вучыў дзяцей. Іх трэба вучыць пры любой уладзе. Я нічога не казаў ні пра Гітлера, ні пра Леніна, ні пра Сталіна. Мы вывучалі азбуку і арыфметыку, займаліся ў драмгуртку, дзе ставілі беларускія п'есы».

На жаль, я гэта добра памятаю, у школе да Голуба ставіліся не вельмі прыхільна. Ён неяк асабняком трымаўся, ні з кім з настаўнікаў не сябраваў. Можа, баяўся сходзіцца з людзьмі. Затое Аляксандр Міхайлавіч сябраваў з Ларысай Геніюш, якая жыла ў Зэльве. І мяне пазнаёміў з творчасцю апальнай паэткі – не на школьным уроку, вядома ж. Пазней я шмат разоў бывала ў хаце Ларысы Антонаўны, прывозіла ёй «сакрэтныя лісты» з Гродна, дзе вучылася ва ўніверсітэце. Лісты тыя часцяком перадавала пісьменніца Данута Бічэль, кажучы: «Ты толькі ідзі да Геніюш вечарам, як сцямнее, каб цябе ніхто не бачыў». А я ішла днём і нікога не баялася! Ларыса Антонаўна сустракала і спачувала: «Дзіця, я перажываю, каб цябе з універсітэта не выгналі». Такі быў час...

Мой бацька працаваў пажарным інспектарам і неяк расказваў, як яго прымусілі рабіць вобшук у хаце паэткі. Прыехаў кадэбіст і кажа: «Па нашых звестках у Геніюшаў на гарышчы стаіць перадатчык, і яны перадаюць забароненую інфармацыю на Захад. Вы павінны пад выглядам пажарнай інспекцыі зрабіць вобшук». Бацька сябраваў з Іванам Пятровічам Геніюшам (знакамітым на ўсю ваколіцу доктарам), але мусіў выконваць заданне. Злазіў на тое гарышча, нічога там не знайшоў і сказаў кадэбісту: «Адчапіцеся вы ад Геніюшаў, гэта ціхія і бясшкодныя людзі».

**25 студзеня споўнілася 100 гадоў** з дня нараджэння Аляксандра Міхайлавіча Голуба. Пра юбілей дарагога настаўніка я з дапамогай «Народнай Волі» і хачу нагадаць усім вучням.

Тацццяна МАНАННІКАВА.
г.Зэльва.

На фота: Аляксандр Голуб. 1969 год.

